

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 29 (568) 31 ЛІПЕНЯ 2002 г.**

## III канферэнцыя беларусаў краін Балтыі ў Літве




**13 – 14 ліпеня ў Вільні адбылася III канферэнцыя беларусаў краін Балтыі; арганізаваная Таварыствам Беларускай Культуры ў Літве.** *(Рэпартаж з канферэнцыі чытайце на ст. 3).*

## Падпіска на нашую газету працягваецца

***Паважаныя сябры!***

Нядаўна ў "Нашым слове" надрукаваны вынікі падпіскі на III квартал, які з'яўляецца самым складаным, бо ў летні перыяд вучні, настаўнікі, студэнты і іх выкладчыкі адпачываюць. Мець 1328 падпісчыкаў на цалкам беларускамоўную, недзяржаўную газету сярод лета няблага.

Але, шаноўныя сябры, грошай, якія мы атрымалі за падпіску не хопіць, каб выдаваць газету на працягу трох месяцаў. Таму мы вельмі просім усіх тых, хто падпісаўся толькі на тры месяцы тэрмінова працягнуць падпіску да канца года.

Пры гэтым хачу ад імя Сакратарыята ТБМ выказаць шчырую ўдзячнасць кіраўнікам і сябрам суполак з Баранавіч, Бярозы, Пінска, Пружанаў, Воршы, Жодзіна, Стоўбцаў, Чэрвеня, Мастоў, Ліды і Горак, якія нягледзячы на лета здолелі павялічыць колькасць падпісчыкаў.

Аднак кіраўнікі шмат якіх буйных структураў ТБМ, нажаль, не пераканалі сваіх сяброў дайсці да пошты, каб аформіць падпіску.

Таму мы друкуем падпісны бланк на чатыры месяцы (з 1 верасня) і просім Вас, нягледзячы на летнюю спёку, да 10 жніўня папрасіць сяброў сваіх суполак знайсці дарогу да пошты. Нават калі гэта будзе 2-3 чалавекі з горада, гэта ўжо добра.

У сваю чаргу Сакратарыят ТБМ знойдзе грошы, каб падпісаць з верасня ўсе раённыя бібліятэкі Беларусі, якія не мелі грошай для падпіскі, асабліва на Магілёўшчыне.

Спадзяюся, як заўжды, на Вашую падтрымку.

**З павагай Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865**
(індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

Кошт падпіскі / пераадрасоўкі **1956** руб. / руб. Колькасць камплектаў **1**

На2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча.ініцыялы)

# Янку Брылю - 85



***Вельмішаноўны Іван Антонавіч!***

*Таварыства беларускай мовы мае за вялікі гонар павіншаваць Вас, народнага пісьменніка, найвыдатнейшага мастака слова, - з слаўным юбілеем. Як волат беларускага духу, цягам свайго жыцця і творчасці Вы цвердзіце адданасць беларускай ідэі, бязмежную любоў да свайго народа, замілаванасць хараством роднай прыроды. Вы ўзбагацілі літаратуру творамі высокага мастацкага кшталту. Нам, хто схіляе галаву перад Вашым талентам, інтэлігентнасцю ды чалавечнасцю, за Вамі – як за сцяною. Ваша грамадзянская пазіцыя сілкуе нацыянальна свядомы люд, надае ўпэўненасці і веры ў нашу духоўную моц. Слушна сказаў паэт: "Тады выстойваюць падлескі, калі выстойваюць лясы."*

*Нам прыемна, што Вашае імя ў шэрагу выдатных дзеячаў ТБМ ад самага пачатку яго заснавання. Ваш клопат пра Таварыства мы адчуваем і сёння. Дзякуй Богу за шчасце сустракацца з Вамі ў сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 у Менску, гэтай гістарычнай мясціне, адкуль бруяцца ручайкі беларушчыны.*

*Нам добра з Вамі. Жывіце доўга і тварыце на радасць усім нам і на карысць любай Беларусі.*

***Сакратарыят ТБМ.***

## Шлях да Гарызонта

З імем Янкі Брыля ў мяне асабіста звязана падзея лёсу – менавіта Іван Антонавіч напачатку далёкіх 70-х далучыўся да ўладкавання маладзенькай паэткі, якая прыехала на Беларусь з Львова, у "Сельскую газету", літкансультантам. Аднак справа не толькі ў асабістай сардэчнай падзяцы. Бо найкаштоўнейшы скарб для ўсіх нас — гэта творчасць народнага пісьменніка. Дзівоснай жменяю сонечнага прамення Янка Брыль здольны да здзяйснення цуду – найтанчэйшай творчай інкрустацыі: у сціслай, па-еўрапейску дакладнай мастацкай форме, калі вочы адбірае шчымлівы бляск родных колераў, а ўся чытацкая ўвага паглынаецца пахамі і гукамі, рэальнасцю і містыкай, мінулым і будучыняй народнага жыцця, майстар ужо не адзін дзесятак гадоў выяўляе, фіксуе, напоўніцу разгортвае і гранулюе ў роднай мове генетычны код нацыі, знакавасць беларускай прысутнасці на карце чалавечага космалогасу. Вялікі Беларус па-сапраўднаму папулярны і ў роднай аселіцы, і сярод суседзяў, блізкіх і далёкіх. Брыля – народнага пісьменніка і народнага інтэлігента – па-асабліваму ўрачыста, горнеузвышана шануюць. І ў асяродку дэмакратычных грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, настаўніцтва, і ў гурце нацыянальнай літаратурнай моладзі. Маючы найчуллівейшы творчы слых і густ, займеўшы статус носьбіта сумлення нацыі, Янка Брыль заўжды ў цэнтры змагання, пошукаў ісціны і сапраўднай літаратуры. А шлях да Гарызонта – бясконцы.

***Валянціна Коўтун.***



№ 29 (568) 31 ЛІПЕНЯ 2002 г. НАША СЛОВА

# Мова, адукацыя і час

***Па матэрыялах "круглых сталоў" "Мова і адукацыя - падручнікі, дапаможнікі, методыкі", "Нацыянальны універсітэт і 'культура", праведзеных 19.06.02 сумесна з Міністэрствам адукацыі.***

У другой палове XIX ст пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага пачалася суцэльная русіфікацыя пачатковай і сярэдняй школы, пазбаўленне права на адкрыццё вышэйшых навучальных устаноў, забарона ўжывання ў школе беларускай мовы, забарона беларускамоўнага друку. Матчына беларуская мова была абвешчана некультурнай мужыцкай мовай, якую трэба было выкараняць з ужытку.

У Беларусі не існавала да 1915 г. ні адной беларускамоўнай школы. У жыццё цвёрда праводзіўся асноўны прынцып кадравай палітыкі – не пускаць беларусаў на пасады, вышэйшыя за сярэднія, асабліва гэтага прытрымліваліся ў сферы народнай адукацыі. У падручніках беларусы былі названы рускімі і характарызаваліся, як самая забітая і адсталая частка рускага насельніцтва Расійскай імперыі.

Першая беларуская пачатковая школа была адчынена ў 1915 г. у Вільні, распачалі дзейнічаць беларуская бібліятэка і кнігарня. Потым педагагічная канцэпцыя беларускай нацыянальнай школы стала ўвасабляцца ва ўрадавай адукацыйнай палітыцы БНР і БССР. У канцы 20-х гадоў падчас беларусізацыі ў Беларусі было 90% беларускіх, 3,6% польскіх, 3,2% яўрэйскіх і 1,4% рускіх школ.

Аднак за гады сталінскіх рэпрэсій у 30-40-х гг, за гады русіфікацыі 50-80-х гг. змянілася адукацыйная сістэма. Практыка 1958 г. вызвалення вучняў ад вывучэння беларускай мовы прывяла да таго, што ў Беларусі ў 1970г. 33%, а ў Менску 90% школьнікаў было вызвалена ад вывучэння беларускай мовы, толькі 20% усіх школьнікаў вучылася па-беларуску. Ва ўсіх гарадах Беларусі не засталося ні адной беларускай школы. Выпускнікі беларускіх сельскіх школ працягвалі адукацыю ў ВНУ на рускай мове, бо не было ні адной беларускамоўнай ВНУ.

У 1990г. адбыліся змены ў адукацыйнай моўнай палітыцы, і ў незалежнай Беларусі сталі адчыняцца нацыянальныя школы і класы. У 1994 г., які лічыцца "пікам" адраджэння, у першыя беларускія класы краіны пайшло 79% школьнікаў, у Менску – 58%. На беларускай мове ў Беларусі вучыцца 40,6% школьнікаў. Амаль уся пачатковая школа пераведзена на беларускую мову. Адкрыліся беларускамоўныя плыні ў ВНУ.

Пасля майскага рэферэндуму 1995 г. сітуацыя зноў змянілася, пачаўся перавод навучання на рускую мову. У 1995г. 108 школ было пераведзена на рускую мову навучання.

Сёння на беларускай мове навучаецца 27,8% дзяцей у краіне, па-руску – 72,1%. Захаваліся беларускія школы ў гарадах, усіх іх – 49 (Менская вобл.- 21, Гарадзенская – 9, Віцебская вобл.- 5, Гомельская – 4, Берасцейская – 2, Магілёўская – 1). У Менску функцыянуюць 4 беларускія школы.

Моцна змянілася пачатковая сістэма адукацыі. Калі ў Менску ў 1994 г. у першыя беларускія класы пайшло 58% школьнікаў, то ў 2001 іх стала 3,8%. Па Менскай вобл. іх значна больш – 39,5%. Значныя страты панесла Гарадзенская вобласць, 13 агульнаадукацыйных устаноў змянілі свой беларускамоўны статус.

У другой палове 90-х гадоў, калі дзяржаўная адукацыйная сістэма флегматычна канстатавала статыстыку надзвычайнага "адкату" ў беларускамоўнай адукацыі, грамадскія арганізацыі, у тым ліку ТБМ, ТБШ, рабілі ўсё магчымае, каб спыніць разбурэнне нацыянальнай школы: праводзілі сярод бацькоў, вучняў, настаўнікаў растлумачальную работу, вялі актыўны дыялог з дзяржаўнымі структурамі. Сёння мы маем заканадаўчыя і нарматыўныя акты, на якія можна абапірацца ў справе адраджэння нацыянальнай адукацыі. Так, прыняты Закон "Аб адукацыі" (31.01.02) канстатуе, што "навучанню на беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка".

Прынятая Пастанова Міністэрства адукацыі № 48 "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы (27.08.01) таксама дае падставы для аптымізму, бо ў ёй вядзецца гутарка пра стварэнне ў кожным раёне Беларусі і гарадскіх раёнах беларускамоўнай гімназіі, а таксама беларускамоўных плыняў у ВНУ.

Сёння нашай задачай павінна стаць рэальнае выкананне палажэнняў гэтых дакументаў, каб сфера выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі па колькасных паказаннях супадала з вынікамі перапісу насельніцтва 1999 г., паводле якога 73,7% нашых грамадзян лічаць беларускую мову роднай і 36,7% з іх карыстаюцца ёю ў штодзённым жыцці.

Дзякуючы Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны, звернутая ўвага органаў адукацыі на выкананне прынятых дакументаў, і ўжо прынятае рашэнне Менгарвыканкама аб адкрыцці ў Савецкім раёне Менска беларускамоўнай гімназіі на базе 23-й сярэдняй школы.

Наладжанае Таварыствам ліставанне з усімі аблвыканкамамі і ВНУ Беларусі паказала, што на сёння трымае паказчык высокага ўзроўню беларускамоўнай адукацыі Менская вобласць. Найгоршае становішча ў Магілёўскай вобласці.

На сёння ў краіне ні адзін ВНУ не працуе цалкам на беларускай мове.

Флагманам адраджэння беларускамоўнай ВНУ з'яўляецца Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка, дзе ў траўні 2002 г. вучоная рада зацвердзіла праграму падтрымкі роднай мовы і адкрыліся беларускамоўныя плыні на матэматычным, фізічным, прыродазнаўчым і іншых факультэтах.

Значная колькасць прадметаў выкладаецца па-беларуску ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны, Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Ёсць беларускамоўныя студэнцкія групы на гістфаках БДУ і Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы. У астаніх ВНУ беларускамоўных груп няма, і з верасня г. г. яны ствараюцца не будуць, пра што сведчаць адказы з ВНУ.

Трэба адзначыць, што за апошняе дзесяцігоддзе ў краіне створаны цэлы шэраг нацыянальных падручнікаў, калі раней мы мелі практыку ці завозу, ці перакладу падручнікаў з Масквы. Так, навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання выдаў на беларускай мове вучэбна-метадычную літаратуру па дашкольнай адукацыі (42 дапаможнікі з 117), для падрыхтоўчых і І-ІІІ класаў (94 з 226), па беларускай мове і літаратуры (99), па замежных мовах (37 з 120), па прадметах эстэтычнага цыклу (усе 51 дапаможнікі толькі на беларускай мове), па геаграфіі і гісторыі (51 з 87), па матэматыцы і інфарматыцы (68 з 129), па выхаваўчай рабоце (46 з 146) і інш. Аднак беларускамоўны падручнік ледзь толькі перасягае 50% мяжу.

Сёння істотнай праблемай у сістэме адукацыі з'яўляецца звужэнне сферы выкарыстання беларускай мовы ў камунікатыўным аспекце. На роднай мове не гавораць вучні; настаўнікі беларускай мовы на перапынках пераходзяць у гутарцы на рускую мову. Адной з прычын гэтага з'яўляецца малая колькасць гадзін, адведзеная на вывучэнне роднай мовы. А ў гэтым годзе адменены абавязковы выпускны экзамен па беларускай літаратуры, і гэтая адмена прывядзе да яшчэ большага звужвання кантактаў на беларускай мове. Пагэтаму асабліва сёння ўзнікла патрэба ў мультымедыйных, інтэрактыўных, відэа-, аўдыё-камунікатыўна арыентаваных падручніках па беларускай мове і літаратуры.

Не трэба разглядаць моўныя праблемы сённяшняй Беларусі толькі з гомацэнтрычнай пазіцыі – пазіцыі людзей. Выбар мовы залежыць і ад зямлі, на якой мы жывём. Наш маўленчаслыхавы апарат створаны беларускай зямлёй, нашымі продкамі-беларусамі. Калі мы мяняем спрадвечную мову, то знаходзімся ў біялагічнай перагрузцы і адчуваем псіхалагічны ціжар.

Па-гэтаму сёння стаіць задача перад жыхарамі Беларусі – вярнуць беларускую мову ва ўсе сферы жыцця, пачаўшы з адукацыйнай прасторы.

Удзельнікі "круглага стала" прынялі наступную рэзалюцыю:

*"Мы, удзельнікі "круглага стала", абмеркаваўшы стан і перспектывы беларускамоўнай адукацыі на сучасным этапе, заяўляем пра аб'яднанне намаганняў дзяржаўных і грамадскіх структур па выкананні Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і Пастановы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" № 48 ад 27. 08. 01 г.*

*У сувязі з гэтым лічым неабходным:*

*- ажыццявіць ва ўсіх раёнах абласных гарадоў Беларусі набор у падрыхтоўчыя беларускамоўныя класы школ;*

*- аднавіць абавязковы экзамен па беларускай літаратуры ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах;*

*- стварыць беларускамоўныя студэнцкія групы ў Менску і ва ўсіх рэгіянальных універсітэтах Беларусі;*

*- прапанаваць Міністэрству адукацыі распрацаваць праграму "Беларускамоўны падручнік для ВНУ";*

*-Белтэлерадыёкампаніі ўключыць у план тэлеперадач цыкл навучальных праграм па беларускай мове і літаратуры."*

***Людміла Дзіцэвіч, першы намеснік старшыні ТБМ.***

**Дынаміку моўнай адукацыйнай сітуацыі можна разгледзець на наступных табліцах.**

*Усяго ў Беларусі 1464744 вучні, у тым ліку ў дзённых школах - 1440984 (у мінулым навучальным годзе было 1498417). З іх вучацца:*

| Навуч. год | Па-белар. | % | Па-руску | % | Па-польску | Па-літоўску |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1999-2000 | 463371 | 30,0 | 1081798 | 70,0 | 874 | 76 |
| 2000-2001 | 453012 | 29,0 | 1062424 | 70,9 | 903 | 78 |
| 2001-2002 | 400869 | 27,8 | 1039174 | 72,1 | 870 | 71 |

*Акрамя таго, у 176 дзённых школах 9406 вучняў вывучаюць родную мову нацыянальных меншасцяў, у тым ліку 8774 вучні - польскую, 441 - яўрэйскую, 119 - украінскую, 72 - літоўскую.*

**Школы з адпаведнай мовай навучання (усяго - 4506)**

| Навуч. год | Беларуская | % | Руская. | % | Бел./рус. | % | Польск. | Літоўск. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1999-2000 | 2847 | 61,7 | 1147 | 24,8 | 620 | 13,4 | 1 | 1 |
| 2000-2001 | 2822 | 61,9 | 1201 | 26,3 | 533 | 11,7 | 2 | 1 |
| 2001-2002 | 2773 | 61,5 | 1266 | 28,1 | 463 | 10,3 | 2 | 1 |

**У наступнай табліцы паказаныя змяненні ў сетцы школ за апошнія тры навучальныя гады:**

| Рэгіён | З белар. мовай навуч. | | | З рускай мовай навуч. | | | З дзвюмя мовамі навуч. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1999-2000 | 2000-2001 | 2001-2002 | 1999-2000 | 2000-2001 | 2001-2002 | 1999-2000 | 2000-2001 | 2001-2002 |
| г. Менск | +5 | 0 | -1 | +17 | +13 | +12 | -16 | -10 | -10 |
| Берасцейская вобл. | -8 | -4 | -8 | +19 | +2 | +10 | -22 | -7 | -11 |
| Віцебская вобл. | +3 | -1 | -6 | +5 | +14 | +10 | -14 | -17 | -9 |
| Гомельская вобл. | -9 | -5 | -9 | +16 | +4 | +7 | -18 | -12 | -8 |
| Гарадзенская вобл. | -5 | +4 | -13 | +3 | +4 | +9 | -6 | -13 | -9 |
| Менская вобл. | -7 | -14 | -4 | +7 | +12 | +13 | -14 | -22 | -22 |
| Магілёўская вобл. | -6 | -5 | -8 | +4 | +5 | +4 | -7 | -6 | 0 |
| Разам | -27 | -25 | -49 | +117 | +54 | +65 | -97 | -87 | -69 |

## ВІНШУЕМ З ДНЁМ НАРОДЗІНАЎ

**сяброў ТБМ, якія прыйшлі на свет у жніўні**

1. Уладзіміра Арлова
2. Янку Брыля
3. Генадзя Бураўкіна
4. Уладзіміра Варапеева
5. Аляўніну Вячорку
6. Міколу Галаўнёва
7. Аляксандра Зайку
8. Сяргея Запрудскага
9. Міколу Камароўскага
10. Ніну Канунніkаву
11. Чаславу Князеву
12. Андрэя Карповіча
13. Анатоля Косінца
14. Адама Мальдзіса
15. Ірыну Марачкіну
16. Людмілу Піскун
17. Алеся Пушкіна
18. Ігара Савосценку
19. Тамару Самайлюк
20. Віталя Супрановіча
21. Алега Трусава
22. Генадзя Тумаша
23. Тацціяну Чабанаву
24. Алеся Чэчата

## Ад Пінска да Барысава

Прайшоўшым летам мне давялося двойчы праехаць па дарозе ад Пінска да Барысава. Першы раз ехаў на машыне па шашы, а другі раз гэтую дарогу праехаў па чыгунцы. І на што я звярнуў увагу, перасякаючы амаль усю Беларусь з Захаду на Усход? На розныя ўказальнікі, стэнды, шчыты з агітацыйным характарам, якія належаць лясной гаспадарцы. І якое ж уражанне ад убачанага? Самае страшнае. Мне здавалася, што я еду па дарогах Пскоўшчыны ці Наўгародчыны. Усюды ўся наглядная агітацыя лясной гаспадаркі на рускай мове. На жаль, гэта праўда, крыўдная, прынікальная для беларусаў праўда. Няўжо чыноўнікі лясной гаспадаркі думаюць, што не зразумеюць людзі, якія ідуць ці едуць па дарогах Беларусі, беларускамоўных заклікаў і папярэджванняў? Калі думаюць то дарэмна. Справядлівасці дзеля выказваю сваю ўдзячнасць працаўнікам лесу з Кукаўскага лясніцтва Ганцаўскага лягсага. Менавіта каля вёскі Кукава я ўбачыў беларускамоўны шчыт. Гэта адзіны на ўсю Беларусь па дарозе ад Пінска да Барысава. Парадокс. Бо лягсасы і лясніцтвы знаходзяцца на зямлі беларускай, а не на пскоўскай ці варонежскай. На тэрыторыі нашага сельсавета знаходзяцца тры лясніцтвы Целяханскага лягсага і ні ў адным не бачыў беларускамоўных шыльдаў і шчытоў. Лічу сваім абавязкам звярнуцца ў Целяханскі і Пінскі лягсасы, лясніцтвы, якія размешчаны на тэрыторыі раёна з прапановай перагледзець заганную практыку ўжывання толькі рускай мовы ў справаводстве і нагляднай агітацыі.

***Уладзімір Гук.***





# III канферэнцыя беларусаў краін Балтыі ў Літве

13 – 14 ліпеня ў Вільні адбылася III канферэнцыя беларусаў краін Балтыі; арганізаваная Таварыствам Беларускай Культуры ў Літве, асабліва шмат намаганыяў прыклаў старшыня ТБК Хведар Нюнька. Падрыхтаваць і правесці такога маштабу мерапрыемства-задача складаная і адказная. Праца праводзілася на працягу года, абмяркоўваўся план, колькасць дэлегатаў і г.д. ТБК падтрымоўвае добрая адносіны з беларускімі аб'яднаннямі свету, таму і жадаючых ўдзельнічаць шмат, тым больш, што Таварыства Беларускай Культуры мае пэўны аўтарытэт у літоўскім грамадстве. На канферэнцыю прыехалі беларусы з ЗША, Бельгіі, Англіі, Францыі, Латвіі, Эстоніі, Расіі, асабліва прадстаўнічыя дэлегацыі з Польшчы і Беларусі. Сярод дэлегатаў вядомыя ў свеце дзеячы культуры, навукі: старшыня рады БНР Івонка Сурвіла, старшыня беларусаў Вялікабрытаніі Лёля Міхалюк, Янка Жучка з Бельгіі; Алег Латышонак, Алена Глагоўская з Польшчы, Вячка Целеш з Латвіі, Маргарыта Астравумава з Эстоніі, праф. Анатоль Грыцкевіч, акадэмік Радзін Гарэцкі, Старшыня ТБМ Алег Трусаў, мастак Алесь Марачкін, Генадзь Бураўкін, Галіна Дзягілева, Петрыкевіч з Беларусі, Зянон Пазьняк, дэлегаты з Літвы.

Канферэнцыя праходзіла ў будынку былой віленскай беларускай гімназіі па вуліцы Вострабрамскай. Тут кожны куточак, кожная цаглінка – сведкі беларускай гісторыі. У дворыку месціўся беларускі музей імя Івана Луцкевіча, побач жыў Максім Гарэцкі і Неаніла Чарняўская, ды і канферэнцыя такога маштабу – сучасная гісторыя беларусаў Летувы. Адкрыццё канферэнцыі. Гучаць гімны Летувы і "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Зачытваецца прывітанне ад прэзідэнта Летувы Валдаса Адамкуса. У зале прысутнічалі і выступілі члены Сойму Чэславас Юршэнас, Вітаўтас Ландсбергіс, Вацлаў Станкевіч, кіраўнікі нацыянальных суполак, дэлегаты, госці. Працу канферэнцыі паказалі тры каналы летувіскага тэлебачання (LNK, TELE-3, Vilniaus TV), асвятлялі журналісты іншых СМІ.

У перанынку рэлегаты і госці здзейснілі вандроўку па беларускіх мясцінах Вільні; усклалі кветкі на месцы пакарання Кастуся Каліноўскага. Вечарам у мастацкай галярэі "Па-над Віліяй" адкрылася выстава беларускіх мастакоў суполкі "Маю гонар" краін балтыйскага рэгіёну, Выступіў старшыня Вячка Целеш, ён распавёў як узнікла ідэя аб'яднацца і цесна супрацоўнічаць. Маргарыта Астравумава падкрэсліла, што мастакі суполкі – адна сям'я, усё ведаюць кожны пра кожнага, адбыліся выставы ў Эстоніі, Латвіі, зараз у Летуве, у Паставах і г. д. З прывітаннем выступіў старшыня суполкі мастакоў "Пагоня" Алесь Марачкін.



**Івонка Сурвіла і Вітаўтас Ландсбергіс, Вільня, 13 ліпеня 2002 года. Фота Леакадзіі Мілаш.**

На другі дзень працы канферэнцыі выступіла Галіна Войцік –Луцкевіч, яна падраблязна расказала пра гісторыю і дзейнасць музея Івана Луцкевіча, ён быў па колькасці і каштоўнасці экспанатаў самым багатым музеем у Вільні. Супрацоўнікі працавалі, як тады казалі ганарова. Без зарплаты. Пасля яго ліквідацыі львіная доля экспанатаў засталася ў Летуве, у прыватнасці ў этнаграфічным музеі. І зараз у больш маладога пакалення беларусаў ёсць каштоўныя экспанаты, якія ўжо гісторыя, напрыклад, карціны Пётры Сергіевіча, Таму і адзін з важных дакументаў прынятых на канферэнцііі "Аб аднаўленні дзейнасці беларускага музею ў Вільні", яго прыводжу цалкам:

*"У першай палове XX стагоддзя браты Іван і Антон Луцкевічы залажылі ў Вільні адзін з лепшых беларускіх музеяў у свеце. У гэтым музеі былі сабраныя тысячы экспанатаў па розных перыядах гісторыі Беларусі.*

*У 1945 годзе бальшавікі зачынілі славуты беларускі музей, а яго фонды былі раскіданы па розных музеях Літвы, Беларусі і Польшчы.*

*Мы, удзельнікі III канферэнцыі беларусаў Балтыі просім літоўскі ўрад аднавіць дзейнасць музея ў Вільні), а, таксама, вярнуць у яго фонды былыя музейныя калекцыі, раскіданыя па іншых музеях і бібліятэках.*

*Спадзяёмся. Што літоўскі ўрад, як і літоўская грамадскасць прыхільна паставіцца да нашай просьбы, якая адпавядае канцэпцыі аб'яднанай Еўропы і рэзалюцыям UNESCO".*

Сярод рэзалюцый прынятых на канферэнцыі: "Захаваць Радыё Рацыя", "Сітуацыя з радыё "Палонія, "Зварот да кіраўніцтва Еўразвязу" і іншыя. Дэлегаты канферэнцыі ўсклалі кветкі да таблiцы Янку Купалу, на будынку па вуліцы Віленскай, дзе паэт жыў. На I з'ездзе беларусаў Балтыі у 1994 г. адбылося адкрыцце адноўленай таблiцы. Наша канферэнцыя праходзіла ў юбілейны год паэта, калі ўвесь свет адзначае 120 угодкі. Альбінас Жукаўскас некалі сказаў: *"Старажытны нам з вамі Вільнюс ганарыцца, што ў яго сценах узгадаваліся Адам Міцкевіч і Янка Купала"*. Па Віленскай вуліцы 39 (цяпер Дом настаўнікаў), насупраць скверу Ст. Манюшкі адбылася ў студзені 1913 года першая пастаноўка п'есы Янкі Купалы "Паўлінка" ў прысутнасці аўтара. Беларусы Вільні памятаюць свайго геніяльнага паэта. Галіна Дзягілева прачытала ўрыўкі з спектакля "Мне сняцца сны аб Беларусі".



**Кветкі Янку Купалу, Вільня, 14 ліпеня 2002 года. Фота Леакадзіі Мілаш.**

Перад делегатамі з канцэртнай праграмай у першы дзень выступіў гурт з Менска "Стары Ольса", на другі дзень Галіна Дзягілева і дэлегаты з Эстоніі выканалі песню на словы паэткі з Паставаў Ніны Захарэвіч "Голас Радзімы" Яе вельмі цёпла прымалі прысутныя, сольныя нумары выканаў Андрусь Старавойтаў.

Знойдзены рукапіс ул. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" з малюнкамі аўтара, аб гэтай знаходцы паведаміў сябра ТБК В. Банайціс, вырашана перадаць рукапіс у аршанскіх музей пісьменніка. Перад канферэнцыяй ён спаткаўся з пляменніцай Бр. Тарашкевіча.

Трэба падтрымоўваць беларускую культуру, каб ладзіць такія сустрэчы. Па колькасці дэлегатаў, геаграфіі прыбыцця, значнасці прынятых дакументаў, канфэрэнцыю можна параўнаць бадай што са з'ездам беларусаў свету. Свята адбылося; падзея ў культурным жыцці беларусаў Літвы. У Вільні адбыліся I і II з'езды беларусаў Балтыі, чарговая канферэнцыя, арганізаваная і праведзеная ТБК. Дзе адбудзецца наступная?

Час пакажа, толькі трэба працаваць мэтанакіравана.

***Леакадзія Мілаш, Вільня, ліпень 2002 г.***

# У сядзібе ТБМ – госця з Севастопаля.

У нашае жытло завітала Кацярына Бас, сябра Севастопальскага таварыства беларусаў імя М. Багдановіча. Госця прывезла новую інфармацыю ад кіраўніка арганізацыі Валерыя Барташа і сяброў.

Нашы аднадумцы з Севастопаля зрабілі за апошні год нямала спраў. Так, рупнасцю севастопальскіх беларусаў у Балаклаве з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар Адама Міцкевіча,



**Алег Трусаў, Кацярына Бас і Людміла Дзіцэвіч перад сядзібай ТБМ**

які бываў у Крыме і напісаў аб гэтым нізку вешаў "Крымскія санеты". Зімой у час святкавання 110-х угодкаў з дня народзінаў Максіма Багдановіча сустракалі магілёўскіх сяброў ТБМ, старшыня якіх Міхась Булавацкі, вырашыў арганізаваць наведванне месца апошняга прытулку знанага паэта. Праведзены шэраг сустрэч, імпрэзаў, па-ранейшаму беларускім словам вітае севастопальцаў радыёперадача, падрыхтаваная беларускім таварыствам.

Падчас гутаркі Кацярына расказала пра сябе. Пра тое, як яна прыйшла ў асяроддзе севастопальскіх беларусвў.

Увогуле, па характары яна няўрымслівая, імклівая, цікаўная. Нарадзілася ў Глускім раёне на Магілёўшчыне ў вёсцы Балашэвічы. Бацька быў у кузні кавалём, маці ж даглядала дзяцей. Пасля радыётэхнічнага інстытута Кацярына Дыба выйшла замуж за афіцэра з Уладзівастока і папаездзіла з ім па ўсім Савецкім Саюзе: Ліепая, Пётр-Камчацкі. Потым апынуліся ў Севастопалі.

У пачатку 90-х гадоў, калі Беларусь атрымала незалежнасць і стала ўдасканальвацца нацыянальная свядомасць, беларусы, якія па волі лёсу апынуліся за мяжой, сталі гуртавацца. Тое адчула і Кацярына. Калі яна прачытала ў газеце "Слава Севастопаля", што беларусы праводзілі жальнае свята "Дзяды", то адразу падумала: а чаму без яе? Чаму яна не з імі? Захацелася быць сярод сваіх. Звярнулася ў рэдакцыю па адрас, знайшла Валерыя Барташа. Спачатку дапамагала шыць нацыянальныя строі. Шыліся са штораў, толькі блюзачка ў Кацярыны была аўтэнтычнай, ад мамы. Цяпер жа беларусы маюць дыхтоўную апратку і гожа выглядаюць падчас гарадскіх імпрэзаў.

Кацярыне падабаецца працаваць у Севастопальскім таварыстве, яна лічыць, што дапамагаць Радзіме можна ў любой краіне, таксама як і адчуваць сябе беларусам.

Ёй прыемна, што беларусы знайшлі свайго земляка – героя абароны Севастопаля Казарскага, што не сціхае рака наведвальнікаў магілы Максіма, што вехі жыццёвых прыпынкаў слыннага Адама маюць гонар расставіць і беларусы, што адной з актыўных арганізацый у Асацыяцыі нацыянальных супольнасцяў Севастопаля з'яўляецца іхняя, з якой лічацца і гарадскія ўлады. І глуская беларуска ўтульна пачувае сябе на ўкраінскай зямлі ў рускамоўным горадзе, бо ведае, што яна мае вартасную адметнасць – быць беларусам – і ўжо не страціць яе.

***Людміла Дзіцэвіч, першы намеснік старшыні ТБМ.***

# Сустрэча ў ТБК

У Таварыстве Беларускай Культуры адбылася сустрэча з пісьменнікам Арсенем Лісам. Ён расказаў аб напісанні кнігі пра Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Драздовіча і іншых дзеячоў. Вандроўкі па старажытнай Вільні. Кожная сустрэча з вядомымі беларусамі ўзбагачае, а часам і парадніе. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся падзеі ў культурным жыцці белаарусаў Вільні.

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня.***

# Моўныя абразкі ад Янкі Брыля

Можа, пара ўжо было б замяніць нечым іншым шматварыянтна-банальны *камок у горле*, які ўжо нават і раздражняе?

Муляе мне таксама і *"ад няма чаго рабіць"*, прымітыўная калька з рускага *"от нечего делать"*.

* * *

*"І бядота такая, і дзе-цьмі абкідаўся!.."* *"Твар абкідаўся болькамі, струпамі"*. Блізка?

*"Танцуй, Грышка, карчма блізка!"* З маленства, матчына.

*"Каму руку, каму нагу!"* Так развітваўся ў кампаніі, вельмі спяшаўся.

*"Тыцкала"* – тое з яды, што на скавародзе, у што можна тыцкаць аладкай ці бульбінай.

*"Яна ўжо ў нас пайшла на выслугу"*. Пенсіянерка.

*"Свая свайня"*. Радня, сваяцтва.

* * *

Пажылая цётка гаварыла мне, што закончыла толькі чатыры класы. І вучылася добра. І хацела вучыцца, але мачыха далей не пусціла, трэба было глядзець малых, новых брацікаў ды сястрычак. І слова адно пачуў ад яе, не вычытанае, а з сялянскай памяці.

Хораша, і ніколі, здаецца, не чуў:

- *Няхай Бог абносіць!*

Абмінае нечым благім.

Маладая, адукаваная гараджанка дарэчы згадала ў гутарцы таксама вясковае:

- У нас казалі: *"Каб зацяжарыць, трэба глядзець на пуню"*.

Ніколі гэтага вясёлага не сустракаў. Так і не ведаеш, адкуль прыйдзе неспадзяванае.

На рэдакцыйным калідоры выпадкова сустрэў Георгія Юрчанку і добра было сказаць яму, што ў "Полымі" з цікавасцю прачытаў яго "Паэзію народнай моватворчасці", асабліва такое – журботнае:

*"Асталася адна, не прыдумае, куды кінуцца ёй, хоць з жураўлямі ляці"*.

* * *

*Благочестивый* старэйшына расійскага сената, выступаючы ў беларускай тэлеперадачы "Падзея", гаварыў пра тое, як гэта будзе добра, калі мы аб'яднаемся, калі зноў будзе наверсе той самы любімец, і спакойна, роўненька изрек:"... мы ведь один народ, один язык..."

А перад гэтым у "Народнай волі" з'явілася выступленне беларускага і расійскага акадэміка Радзіма Гарэцкага, якое я чуў на III з'ездзе "Бацькаўшчыны", але ж выразку пакінуць захацелася менавіта цяпер. Выпісваю:

*"Гэта ўжо не світанне,*
*Гэта наша настала змярканне,*
*Гэта з мовай маёй,*
*Развітанне.*
*Ад крыўды плачу, ад болю крычу, чытаючы гэтыя Панчанкавы радкі"*.

Сын вучонага і пляменнік пісьменніка – братоў Гаўрылы і Максіма Гарэцкіх, вялікіх сыноў Беларусі, і сам яе годны сын.

Усе нашы дабрадзеі старанна абыходзяць дадзеныя ўсенароднага перапісу, спасылаючыся на ранейшую рэферэндаўскую і штодзённую хлусню пра нашу любоў найперш, а то і толькі, да мовы рускай.

Не "боскі памазаннік", як рускі цар, і не сам бог, як японскі мікада, а проста нібы нармальны чалавек, выпадкова апынуўшыся на самым вільчыку ўлады, лічыць, што ён мае поўнае права змагацца за яе і надалей, як быццам не для самога сябе, а для народа.

У нас па радыё і на тэлеэкране паведамленні з нядаўняга часу ідуць патроху, малымі порцыямі, але значна часцей, каб слухач ды глядач лепш засвойвалі *"ваймяца"*.

А з Масквы – такое надакучлівае ўражанне, што як не выбух які, не новае зладзейства, не забойства кілерскае або чачэнскае, дык пра жыццё многамільённага народа не было б чаго і сказаць.

"На Бога спадзявайся, але і сам..."

Адзін на ўрадавым чорнавокна-браніраваным лімузіне другі ў спецпразрыстым акварыюме на колах, яны трывумфальна пабывалі абапал беларускай і ўкраінскай мяжы, і тая чорная і празрыстая браня – галоўнае, што гаворыць пра палітычны змест іх набожных місіяў.

Атрыманнем незалежнасці справа не закончыцца. Яшчэ так далёка да незалежнасці сапраўднай, а ўжо ж і заўважаюцца прычыны для нацыянальнай вараженчы. Так то патроху, то больш намякаецца і гаворыцца пра забраную у нас Вільню, не хочучы служаць пра такое ж ці падобнае права на той самы горад у літоўцаў ці ў палякаў, а тым больш не хочучы думаць, што лепш бы той Вільні стаць вольным горадам, своеасаблівым сімвалам дружбы паміж суседнімі народамі. Такіх балючых "вузлоў" бліжэй і далей, на ўсім свеце нямала, і пакуль людзі, народы не навучацца іх разумна развязваць – дабра не чакай.

Уладкоўваць сваіх дзяцей ці ўнукаў на лягчэйшае жыццё ў замежжы – гэта пасылаць іх на патрыятычнае ўздыханне па мілай Радзіме здалёк, пажадана з самой Амерыкі. Адны з "адраджэнцаў" заняліся гэтым адразу, адкрыта, а другія пазней стараюцца, спакваля ды спадцішка, самі застаючыся "актыўнымі".

Адзін у сваім бойкім артыкуле пра халуйскія асалівасці беларусаў, сам сябе, трэба думаць, у халуі не залічвае.

Як і другі, што і гаворыць па замежным радыё, і піша таксама, што ў нас "няма сапраўднай інтэлігенцыі", сябе таксама ж абмінаючы.

Такое лірычнае міжрадкоўе...

* * *

Няшчасце яднае людзей, абуджае ў душах тыя пачуцці і думкі, якія даюць надзею на святлейшую будучыню чалавецтва. Так цяпер, пасля адзінаццатага верасня, з Амерыкай.

Праўда, ёй намякаюць пра Хірасіму, пра Бялград і яшчэ пра што, і ёй, яе кіраўніцтву варта было б задумацца над тым, што пекла вайны яна ў сябе дома не перажывала, а лёсам другіх народаў хоча і практыкуецца распараджацца па праву сілы і заможнасці. Вось і цяпер, калі ёй шматлюдна, шчыра спачуваюць, яна зноў пагражае, спадзяецца на сваё золата і жалеза, не ўлічваючы найдаражэйшага – крыві нявіннага маленства, святога мацярынства, мірнай мужчынскай сталасці, безабароннай старэчы – новых тысяч, мільёнаў ахвяр... Ужо не іхніх, зноў "варожых"!..

Страшна, няўтульна на нашым свеце!.. І не па Гогалю – "госпада", а панароднаму, па-чалавечы: людзі добрыя, дарагія сябры!..

* * *

У нашым Загоры ў маім маленстве лапці насілі сырамятныя, нават у каго і аборы былі не вераўчаныя, а з мякчэйшай скуркі. Толькі ў дзеда Коціка яшчэ ўсё паласяныя, з лыка. У прадвясенным разводдзі раўчуком каля платоў з вышэйшага канца вёскі ў наш ніжэйшы канец калі-нікалі даплываў, натоўкшыся ў берагі, такі нямодны паласяннік, і нам, падшыванцам, пацешна было пароць які-небудзь патарчакамі той "карабель" без абораў, знятых старым Коцікам для наступнага, каб яшчэ раз не віць.

Таксама ж успамін. Прыйшоў ён пакуль я сядзеў пры не зусім астылай за ноч бела-кахлянай грубцы, ціха чакаючы прыезду ўнучкі з мужам. На машыне, вядома, што сёння не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы не навіна.

Прагрэс!

А днямі старая паштарка гаварыла мне, што ў школу з іх недалёкага Беражна ў Мір, за пятнаццаць кіламетраў, спецыяльны аўтобус бярэ ўжо толькі двое дзяцей – з двух нечым соцень хат...

* * *

Цёўканне аерам, як на губным гармоніку, - дзіцячае, найбольш хлапчуковае свята ў суботу перад Сёмухай, калі з лесу прывозіліся для ўпрыгожання двара бярозкі. А з-над рэчкі аер, нарэзаўшы якога, пасыпалі свежавымытую падлогу ў хаце.

У нашага бацькі ад любасці да дзяцей і ў самога былі дзіцячыя рысы ў характары. Так ён, ужо і хваравіты, і вечна ў рабоце, у свае апошнія лета ездзіў на нашым сівым сібірачку на Вушу, за два кіламетры, і ў лес за ракою, яшчэ больш за тры, каб прывезці радасць малым.

У татарскім квартальніку "Байрам" прачытаў пра ўласцівасці аеру, і вось паявло на запіс.

Там яшчэ цытуецца з кітайскага медыцынскага трактата: "У яго каранішчы смак пякучы, уздзеянне цёплае, саграваючае, моцна ўплывае на страўнік, мужчынам дае сілы на ноч і спакой днём.".

А дзецям, - дадамо, - такое бела-ружова-зялёнае цёканне.

* * *

*"Вецер вышугаў хату"*.

*"У кожнай хаце – свая печ"*.

*"І стаяць твая хата будзе – век веку падасць"*.

* * *

Вясковы пажарнік: "Агонь мы *ўкамячылі* адной цыстэрнай вады".

"Крывое кола *на сябе* гразь кідае".

"Стаіць, *павесіўшы рукі*, і маўчыць".

"Хмара толькі *засьценьвала* на дождж, ды нешта ж не пайшоў".

"Гэта анёл, але *з-пад млына*!" Як чорт.

* * *

Сонца раптам ды нечакана выглянула з-паміж хмараў, і на суседавай ябліні *запрышчыліся* яблыкі, якіх бачыцца больш, чым лістоў.

* * *

У блакноце з канца шасцідзесятых гадоў:

"Засталіся ў калгасе адны дзяды, як *недагараныя* карчы."

А цяпер ужо, здаецца, адны толькі бабулі – *лічаныя*.

"Старое – як малое". Празздзяцінеласць. Аднак не крыўдна, няхай сабе і з паблажлівасцю, але ж і з цяпельцам у падтэксце. У разумнай сям'і.

Унучка на чацвёртым годзе:

- Гуляць мы, дзеду, пойдзем з табою, калі сонейка нагрэе ветрык.

- Маці – вобраз святы. Але ж з яе бывае таксама мачаха, якая ненавідзіць не сваё дзіця. Тут ужо не да святасці.

...А мне адраджацца не трэба, беларусам я нарадзіўся даўно, у раннім вясковым юнацтве. Няма і патрэбы хваліцца тым, што ад пачатку і назаўсёды тваё.

Светлая, мужная жанчына, знаёмая выкладчыца адной з нашых тэхнічных ВНУ, у тэлефоннай гутарцы, калі я спытаўся, як жа ёй працуецца, падаючы маладым вышэйшую матэматыку - па сваёй волі і настаянні - па-беларуску, з вясёлай... лепш – з радаснай шчырасцю расказала, як прыкметна апошнім часам расце ў студэнтаў свабодная цяга да роднай мовы.

## Віленскі ўніверсітэт запрашае

**Кафедра беларускай філалогіі факультэта славістыкі Віленскага педагагічнага ўніверсітэта абвяшчае набор абітурыентаў па спецыяльнасці беларуская філалогія з магчымасцю атрымання дадатковай спецыяльнасці: расейская філалогія, польская філалогія, журналістыка, культуралогія, маркетынг антыкварнай справы, геапалітыка. У Беларусі дыплом Віленскага педагагічнага ўніверсітэта мае юрыдычную сілу. Навучанне завочнае і платнае.**

**... Структура навучання ва ўніверсітэце мае тры ступені: бакалаўр, магістар, дактарант. У часе вучобы замежныя студэнты змогуць атрымаць бясплатныя шматразовыя візы, папрацаваць у багатых архівах і бібліятэках Літвы, пазнаёміцца з мовай і культурай народа-суседа, узяць удзел у культурным жыцці беларускай дыяспары. Можна будзе таксама выпрабаваць свае сілы ў беларускіх праграмах літоўскага радыё і тэлебачання, газетах Літвы.**

**Сёння на беларускім аддзяленні навучаецца каля 100 чалавек, сярод якіх, апрача грамадзян Літоўскай Рэспублікі, ёсць жыхары Беларусі, Англіі і Іспаніі.**

**Кафедра беларускай філалогіі факультэта славістыкі Віленскага педагагічнага ўніверсітэта сёлета адзначае дзесяцігоддзе сваёй дзейнасці. У пачатку 90-х гадоў менавіта калектыў кафедры згуртаваў беларускія суполкі і інтэлігенцыю дзеля аднаўлення першай у паваенным часе беларускай школы ў Літве. Выпускнікі кафедры працуюць у Віленскай беларускай школе імя Францішка Скарыны, беларускіх класах Вісагінаса, на радыё і тэлебачанні, у школах Беларусі, працягваюць вучобу ў магістратурах Беларусі і Літвы і г.д.**

**Прыём дакументаў на завочнае аддзяленне: для замежных грамадзянаў - да 15.09.2002, для грамадзянаў Літвы - да 15.10.2002. Для паступлення неабходна даслаць наступныя дакументы: атэстат (копія) альбо дыплом вышэйшай школы, 4 фотакарткі (3х4), выпіску з працоўнай кніжкі (калі ёсць), заяву на імя рэктара.**

**Дакументы, калі ласка, дасылайце на наступны адрас:**

**Baltarusiu filologijos katedra**
**(кафедра беларускай філалогіі)**
**Vilniaus pedagoginis universitetas**
**Studentu g. 39-527**
**2004 Vilnius, LIETUVA**
**Tel./fax: +3702 75 16 04,(дэканат),**
**+370 2 75 03 60 (кафедра, з 25.08.2002),**
**маб.тэл. +370 98 06710**
**тэл. у Баранавічах: 80163 47 05 03 (з 05.08.2002)**
**e-mail: belfil@vpu.lt**
**http:// www.kraj.org/belfil**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 29. 07. 2002 г.
Наклад 2400 асобнікаў. Замова № 1480.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.